У студзені–ліпені інфляцыя ў Беларусі склала 3,1 працэнта.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 63 (4418)**

13 жніўня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЛІЦ

*17 лістапада адбудуцца выбары ў Палату прадстаўнікоў. Да жыхароў Мінска і іншых гарадоў краіны «Народная Воля» звярнулася з такім пытаннем:*

## А ці ведаеце Вы свайго сённяшняга дэпутата?

**Ніна ЛЯВОНЧЫК, Мінск (Старавіленская выбарчая акруга №105):**

– Не ведаю. Хаця на выбары хаджу і выбіраю. Аддаю голас, як мне здаецца, за таго, хто можа паспрыяць беларусізацыі краіны. Але ідзе час і гэтага не адчуваецца. Той дэпутат, за якога я галасавала, ніяк не нагадвае пра сябе. Таму і прозвішча яго я ўжо не помню.

**Лідзія ХМЯЛЕЎСКАЯ, Мінск (Грушаўская выбарчая акруга №99):**

– Ён мяне не цікавіць, як і я яго.

**Алесь Самец, г.п.Карэлічы Гродзенскай вобласці (Навагрудская выбарчая акруга №57):**

– Ведаю! Але ўся праблема ў тым, што ні цяперашні дэпутат Вольга Папко, ні папярэдні Піліп Богуш, калі я звяртаўся да іх, не дапамаглі мне ў маіх праблемах. Прыкра, што праблемы простага чалавека ў іх вырашыць не атрымліваецца, маўляў, мы такімі праблемамі не займаемся, мы толькі пішам законы.

**Іван Бедка, г.Слонім (Слонімская выбарчая акруга №58):**

– Не ведаю і ніколі ў вочы не бачыў.

Нашы дэпутаты калі і праводзяць нейкія сустрэчы з выбаршчыкамі, то хутчэй дзеля справаздачы, бо пра іх вельмі цяжка даведацца. Таму якая карысць ад таго, што нехта і ведае прозвішча свайго дэпутата?..

**Надзея Краўчэня, г.Салігорск (Салігорская гарадская акруга №69):**

– Не, не ведаю. На мой погляд, далёкія гэтыя дэпутаты ад народа і яго надзённых праблем. Можа, і не пайду гэтым разам галасаваць, пакуль яшчэ не вырашыла для сябе.

**Уладзімір Малік, Гродна (Гродзенская-Занёманская выбарчая акруга №49:**

– На выбары я хадзіў, але хто тады балатаваўся – узгадаць не магу.

Ды якія сёння дэпутаты, іх нават па тэлевізары не відаць!.. Гэта не тое, як некалі ў 1990-я гады можна было жывую трансляцыю глядзець і слухаць, як выступаюць сапраўдныя народныя абраннікі. Тады я палову парламента ведаў, не толькі свайго дэпутата!

**Аляксандр Цэцура, г.Салігорск (Салігорская гарадская акруга №69):**

– Паняцця не маю, хто ў нас дэпутат… Пытанняў, якія трэба вырашаць на карысць людзей, у дзяржаве шмат, але адчуванне, што нашы дэпутаты ў гэтым плане пасіўныя.

**Вера МАКСІМОВІЧ, г.Асіповічы (Асіповіцкая выбарчая акруга №89):**

– Так, ведаю. Гэта наш славуты спартсмен Аляксандр Багдановіч. На каноэ ў яго добра атрымлівалася, нават на некалькіх Алімпіядах медалі браў, у тым ліку золата! А вось дэпутат, на мой погляд, ніякаваты…

**Васілій ФІЛІПОВІЧ, Мінск (Партызанская акруга №110):**

– Канешне не ведаю!

**Апыталі Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ, Міхась КАРНЕВІЧ, Ларыса НАСАНОВІЧ.**

### *АД РЭДАКЦЫІ*

Якую выснову можна зрабіць з адказаў апытаных людзей? На жаль, няма цеснай сувязі ў дэпутатаў з народам. Магчыма, таму, што беларускі парламент не выконвае тую ролю, якая адведзена яму Канстытуцыяй.

ПАЛЯВАЯ ПОШТА

## Намалочана каля 6 мільёнаў тон збожжа

Жніво ў краіне блізіцца да завяршэння. Азімыя і яравыя зернявыя засталося абмалаціць на плошчы, якая ад агульнай складае прыкладна 15 працэнтаў. З-за дажджоў стрымліваецца ўборка ў некаторых раёнах Магілёўскай і Віцебскай абласцей.

Але, нягледзячы на ўсё, ужо сёння можна сказаць, што сёлета вынікі працы сялян будуць больш важкімі, чым у мінулым годзе. На ўчарашні дзень сярэдняя ўраджайнасць з гектара складала 32 цэнтнеры, а гэта на 5 цэнтнераў больш у параўнанні з 2018 годам.

**Кастусь ВОЛЬСКІ.**

СКАЗАНА!



Уладзімір КУХАРАЎ, віцэ-прэм'ер:

## «У гэтым годзе тарыфы на паслугі ЖКГ расці не будуць…»

Добра, калі б спадар Кухараў яшчэ сказаў, што ў гэтым годзе больш не будуць расці цэны на прадукты харчавання, праезд у транспарце, лекі, спажывецкія тавары і многае-многае іншае.

А што тычыцца тарыфаў на паслугі ЖКГ, то яны ў гэтым годзе ўжо двойчы павышаліся: з 1 студзеня і з 1 ліпеня. Спачатку падаражэлі паслугі газа-, электра- і водазабеспячэння, аплата капітальнага рамонту, санітарнага ўтрымання некаторых памяшканняў, а затым – гарачае водазабеспячэнне і ацяпленне. Праўда, за апошняе насельніцтва будзе плаціць па новых тарыфах толькі з лістапада, калі пачнецца ацяпляльны сезон.

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Якія могуць быць выбары без «Народнай Волі»!




Сапраўды, любая палітычная кампанія знаходзіць шырокае адлюстраванне на старонках «Народнай Волі». А тут распачынаюцца выбары ў парламент. Ужо цяпер зразумела, колькі бескампрамісных сутычак будзе на электаральным полі. Без праўдзівай, аб'ектыўнай інфармацыі цяжка будзе схіліцца да таго ці іншага кандыдата. А «Народная Воля» – самая незаангажаваная крыніца звестак аб жыцці краіны. І застацца без газеты ў лёсавызначальны для Беларусі перыяд – гэта значыць застацца без важнейшага арыенціру.

Каму неабходна прадоўжыць падпіску – калі ласка, зрабіце гэта ў бліжэйшыя дні. Калі ёсць магчымасць, паклапаціцеся, каб «Народную Волю» атрымлівалі вашы сваякі, сябры, у якіх, магчыма, вялікія фінансавыя цяжкасці.

**Вы — з «Народнай Воляй»!**
**«Народная Воля» — з Вамі!**

***Рэдакцыя.***

РЭГІЁН

## Хто купіць «Дываны Брэста»?

*Канцэрн «Беллегпрам» шукае інвестара для прадпрыемства-банкрута.*

Згодна з апублікаванай на сайце ведамства інфармацыяй, рынкавы кошт прадпрыемства ацэньваецца ў 6,5 мільёна долараў, у тым ліку кошт абсталявання – 4,9 мільёна. Ад інвестара чакаюць захавання брэндавага прадпрыемства, стварэння інавацыйнай, канкурэнтаздольнай прадукцыі і павелічэння абъёмаў выпуску. Мяркуемы тэрмін акупнасці праекта 5 гадоў. На дадзены момант на "Дыванах Брэста" працуе 335 чалавек.

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА

## Минчане превратили лужу в море

Молодая пара в минувший четверг, когда в Минске хозяйничал циклон Xaver, превратила улицу Васнецова в Минске в море: они плавали и веселились. «Хайповать» на своем поступке, говорят, не собирались. Для них это был своего рода протест против тех, кто ноет из-за плохой погоды.

У многих поступок минчан вызвал улыбку, а кто-то заметил, что подобный релакс – своего рода экономия на билетах в столичный аквапарк, трехчасовое посещение которого стоит 43 рубля.




ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Разбой в прослушке

9 августа Александр Лукашенко посетил один из объектов правительственной связи, которую у нас в стране по традиции курирует КГБ. Президент остался доволен увиденным. Было от чего получить моральное удовлетворение: правительственные связисты перешли на оборудование отечественного производства, а задачи по обеспечению надежности и безопасности линий правительственной связи практически решены.

И это правильно. У суверенного государства должны быть свои секреты, и переговоры по линиям правительственной связи как раз и призваны обеспечить невмешательство любопытствующих извне. Союзники союзниками, дружба дружбой, но в данном случае нужно помнить, что не только некоторые западные державы, но, особенно в период нередких конфликтных ситуаций, и российские спецслужбы с удовольствием положили бы на стол своему руководству распечатку переговоров президента Беларуси, а иногда и просто отраслевых министров. Так что по поводу развития «секретки» вопросов и претензий к ответственным лицам ни у нас, граждан, ни у бюджета быть не должно. Что надо, то надо.

Лично у меня вопросы возникли, когда я читал официозный отчет о посещении президентом того самого объекта правительственной связи, а точнее – о том, что при этом шла речь о контроле над переговорами граждан. Вот цитата: «Александр Лукашенко также напомнил о поручении, которое было дано начальнику Оперативно-аналитического центра Андрею Павлюченко во время недавнего доклада. «Нам надо серьезно посмотреть по отдельным направлениям контроля – слухового, видео и так далее. Тут нам надо совершенство, чтобы не было разбоя: захотел какой-то начальник кого-то прослушать – прослушал, потом продал информацию или кому-то рассказал. Этого быть не должно. Я эту задачу поставил, и вы должны ее решать. Все должно быть цивилизованно и достойно. Главное – это человек. Вы должны обеспечить его полную безопасность, свободу общения. Никто не имеет права влазить в его вопросы», – резюмировал белорусский лидер».

То есть получается, что в течение последних двадцати пяти лет в этом вопросе не было совершенства, царил разбой? И полную безопасность и свободу общения гражданам Беларуси никто не обеспечивал? Получается, что так. Приведу несколько примеров.

В декабре 2010 года, как известно, была арестована группа кандидатов в президенты и членов их предвыборных штабов. И на прошедших в течение 2011 года судах фигурировали, в частности, результаты прослушки их телефонных разговоров. Не буду говорить за всех – скажу лишь, что в моем деле, в частности, фигурировали распечатки 22 телефонных разговоров с женщиной по имени Татьяна Сергеевна (не путать с легендарной «фрау А.»!), а также беседа с абонентом, телефонный номер которого был закреплен за посольством Королевство Швеция в Республике Беларусь. Ну, последнее – это вообще полное безобразие со стороны «компетентных органов», поскольку согласно всем международным обязательствам Республика Беларусь обязана обеспечить конфиденциальность телефонных разговоров сотрудников дипломатических миссий. Однако и в случае с Татьяной Сергеевной неувязка получилась: наши телефонные разговоры не имели никакого отношения к итоговому приговору по моему делу. И к чему их тогда прослушивали и приложили к моему делу? И не являлось ли это вмешательством в личную жизнь граждан Республики Беларусь?

Прямо на суде я задал вопрос: мне показали санкцию прокурора на осуществление прослушки моего телефонного номера, но можно ли ознакомиться с тем запросом, на основании которого эта санкция была выдана? Судья элегантно ушла от прямого ответа на мой вопрос – на перерыв. И больше к нему не возвращалась.

Странная история случилась и в прошлом году в связи с так называемым «делом БЕЛТА». Напомним, что и в процессе следствия, а затем и суда над главным редактором портала www.tut.by Мариной Золотовой фигурировали результаты прослушки телефонных переговоров. И можно было бы предположить, что вначале появилась жалоба Ирины Акулович (директора БЕЛТА), следствием которой стала прослушка Золотовой как лица, предположительно повинного в «тырении» информации у БЕЛТА. Но было с точностью до наоборот! И санкция на прослушку разговоров Золотовой была дана 19 марта 2018 года, а заявление из БЕЛТА поступило в «компетентные органы» только через два месяца! И оснований для санкции на суде приведено не было. Во всяком случае публично никто о них не говорил.

Можно предположить, что некто в наших спецслужбах просто удовлетворяет свое любопытство по поводу частной жизни, а потом находит повод для возбуждения того или иного дела? Можно. Вероятно, именно это Александр Григорьевич и назвал «разбоем».

И тут мне приходит на память телефонный разговор с покойным ныне Георгием Таразевичем, давно уже бывшим первым секретарем Минского горкома партии, а потом и председателем президиума Верховного Совета БССР – до Дементея. Он позвонил мне осенью 1996 года, накануне референдума, и спросил:

– Как жизнь?

По уклончивым ответам он понял, что я опасаюсь прослушки, и засмеялся:

– Не бойтесь, Александр Иосифович! Аппаратура у них с моих времен не менялась, так что слушать они одновременно могут не больше трехсот человек по Беларуси. И то – не слушать, а записывать. Из них сто находятся в оперативном розыске, еще сто – собственные чиновники, которым они не верят и их боятся. Оставшаяся сотня, конечно, оппозиция, но мы с вами в эту сотню не входим. Да если бы и входили – что с того? Я человек немолодой, общаюсь в основном по телефону, не менее четырех часов в день. Это же нужно не просто записать, но и прослушать и распечатать! Так что не опасайтесь – говорите прямо, что у нас за хренотень происходит в стране…

Говорю прямо. Аппаратура наконец поменялась. Любопытство можно удовлетворять, прослушивая значительно большее число лиц. Правда, и здесь основные бюджетные траты к записи не сводятся. Так что будем ждать новых распечаток и скандалов с непонятным поводом и совершенно понятными последствиями.

Народная Воля http://www.nv-online.info
13 ЖНІЎНЯ 2019 г.

АНАТОМІЯ КАНФЛІКТУ

# Хто каго банкруціць?

*На працягу ліпеня на канале «Страна для жизни» былі паказаны два відэаролікі «Спасите фабрику! Банкротство «Сакавицы» и «Кто сосет кровь «Сакавицы». Паколькі яны набылі шырокі розгалас, я вырашыў сустрэцца з былым і сённяшнім кіраўнікамі Беларускага фонду культуры У.А.Гілепам і Т.І.Стружэцкім і пацікавіцца іх довадамі наконт таго, хто на самай справе з'яўляецца ініцыятарам скандалу і ў якім рэчышчы могуць развівацца далейшыя падзеі, звязаныя з Маладзечанскай фабрыкай мастацкіх вырабаў і дзейнасцю яе кіраўніцтва. Хто і з якой мэтай вырашыў абліць брудам такое знакамітае грамадскае аб'яднанне, як Беларускі фонд культуры?*

**– Якія адносіны мае Беларускі фонд культуры як старэйшая некамерцыйная грамадская арганізацыя да Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў?** – такое першае пытанне я задаў субяседнікам.

– Пасля стварэння ў 1987 годзе Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры ўрадам краіны было прынята рашэнне аб перадачы яму Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў з мэтай падтрымкі дзейнасці фонду. У 1990-я гады яе з цяжкасцю ўдалося захаваць, бо ў той час большасць такіх прадпрыемстваў былі закрыты.

Ва ўсе перыяды свайго існавання яна, як і іншыя падобныя, ніколі не была багатай (прыбытковай). Фонд культуры як уласнік фабрыкі нерэгулярна атрымліваў невялікія фінансавыя адлічэнні, якія выкарыстоўваліся выключна на статутную дзейнасць.

Безумоўна, фонд культуры не мог займацца бізнесам фабрыкі і не меў сродкаў для яе падтрымкі, але і не заставаўся ўбаку ад яе праблем. У снежні 2017 года быў прызначаны па яго жаданні новы дырэктар Сяргей Сабалеўскі – з вопытам працы за мяжой, як здавалася, з нейкімі новымі ідэямі. Адна з іх – выраб свечак для касцёлаў, а з нашай падказкі – і іншай рытуальнай атрыбутыкі з улікам спецыфікі фабрыкі – пачала рэалізоўвацца ім яшчэ да прызначэння на гэту пасаду. Дарэчы, за месяц да яго прызначэння па ініцыятыве фонду была праведзена аўдытарская праверка, па выніках якой быў адзначаны шэраг недахопаў у рабоце фабрыкі: выяўлены парушэнні ў бухгалтарскім уліку і рэалізацыі прадукцыі, разліку яе рэнтабельнасці і іншае. Безумоўна, што з матэрыяламі гэтай праверкі быў азнаёмлены новы дырэктар, і гэта павінна было паспрыяць недапушчэнню падобных памылак у будучым. А яшчэ, як і было запісана ў загадзе аб прызначэнні, ён павінен быў падпісаць акт прыёмкі-здачы матэрыяльна-тэхнічных сродкаў, маёмасці фабрыкі з былым дырэктарам, што не было зроблена. Пазней менавіта па гэтай прычыне сталі выяўляцца некаторыя праблемы…

**– Скажыце, калі ласка, што ўдалося зрабіць новаму кіраўніку разам з фондам за гэтыя паўтара года? –** пацікавіўся я.

– Перш за ўсё з'явіліся новыя ідэі па адаптацыі дзейнасці прадпрыемства да існуючых умоў. Фонд, хоць і з нейкімі сумненнямі, але ўсё ж такі падтрымаў ідэю новага дырэктара аб рэарганізацыі ўнітарнага прадпрыемства ў закрытае акцыянернае таварыства, і назву »Сакавіца» знайшлі кіраўнікі фонду. Ну а далей – шырокая прастора для дзейнасці кіраўніка як сучаснага менеджара, бо Статут ЗАТ, які падрыхтаваў сам Сабалеўскі, даваў яму вельмі шырокія паўнамоцтвы і, безумоўна, Назіральны савет таварыства і кіраўніцтва фонду штодзённа не кантралявалі яго дзейнасць, будавалі адносіны на поўным даверы як са сваім паплечнікам. Фонд прапанаваў дырэктару вывучыць магчымасць адкрыцця ў невыкарыстоўваемых памяшканнях спецыялізаванай пральні для сцэнічных касцюмаў установ культуры і творчых калектываў, стварыць на базе «Сакавіцы» дылерскі цэнтр для рэалізацыі прадукцыі Дамоў рамёстваў і народных майстроў. На жаль, гэтыя ідэі і да сённяшняга дня не рэалізаваны.

Паступова пачалі выяўляцца праблемы, у тым ліку і аб'ектыўныя: невялікія даўгі за цепланосьбіты за 2017 год, вяртанне нерэалізаванай прадукцыі, адгружанай гандлёвай сетцы ў 2016–2017 гадах, і іншыя. Але мы ўсё гэта прымалі як звычайныя праблемы, таму падтрымалі прапановы дырэктара па афармленні новага крэдыту ў «Белгазпрамбанку», набыццё ў лізінг новага аўтамабіля ў залік двух старых, набыццё вялікай партыі сыравіны на Аршанскім ільнокамбінаце. Яшчэ ў кастрычніку мінулага года, калі на пасяджэнні выканкама і Назіральнага савета была заслухана справаздача дырэктара, мы падтрымалі прапановы і захады кіраўніка па мадэрнізацыі вытворчасці і выпуску новых відаў прадукцыі, правядзенні рамонту вытворчых памяшканняў. Гэта сёння мы можам сказаць, што і новы аўтамабіль за 24 тысячы долараў не трэба было браць, і сыравіны аж на 169 тысяч на два гады працы адукаваны менеджар не павінен быў назапашваць…

**– Усё ж на якім этапе адбыўся абвал, што здарылася за апошнія некалькі месяцаў?**

– Першы званок прагучаў 8 студзеня гэтага года, калі Сабалеўскі паведаміў аб адключэнні электраэнергіі на прадпрыемстве. На наступны дзень старшыня фонду сустрэўся са старшынёй Маладзечанскага райвыканкама (там прысутнічаў і Сабалеўскі), і пытанне вырашылася на карысць прадпрыемства: было даручана сфарміраваць графік пагашэння бягучай запазычанасці, а за 2017 год ліквідоўваць яе па меры фінансавых магчымасцяў. І гэта было зусім рэальна, але дырэктарам гэта дамоўленасць не была выканана, і ў лютым зноў былі адключаны электраэнергія і ацяпленне. Зноў жа сам дырэктар па вусным узгадненні з кіраўніцтвам фонду і Назіральным саветам дамовіўся з працоўным калектывам аб афармленні адпачынкаў за свой кошт (як ён сцвярджаў – работнікі лялечнага цэха працавалі дома і прыносілі прадукцыю на фабрыку). У сакавіку Сабалеўскі прыйшоў з прапановай афармлення вялікага крэдыту ад 500 тысяч да 1 мільёна рублёў на набыццё сучасных швейных станкоў. Канечне ж, у нас узніклі лагічныя пытанні, як будзе прадпрыемства выплачваць такі вялікі крэдыт, але тым не менш пагадзіліся. *І менавіта кіраўнік фонду дамовіўся з намеснікам старшыні Банка развіцця аб дапамозе ў распрацоўцы новага інвестыцыйнага праекта, быў знойдзены банк, які гэты праект гатовы быў падтрымаць, але ўжо на гэтым этапе пыл у дырэктара чамусьці астыў – цяпер мы ведаем, па якіх прычынах.*

**– Пасля таго, як у інтэрнэце з'явіліся відэаролікі, грамадская думка, верагодна, схілілася да версіі, што Фонд культуры хоча давесці фабрыку, дакладней ЗАТ «Сакавіца», да банкруцтва, да закрыцця, распрадаць маёмасць…**

– Калі нехта так думае, то ён паддаўся на хлусню, на якой пабудаваны сюжэты відэаролікаў. Калі б фонд меў намер гэта зрабіць, то магчымасці такія мог бы знайсці значна раней. Але нічога падобнага ў кіраўніцтва фонду ніколі не было. Усё было накіравана на захаванне фабрыкі, на павышэнне эфектыўнасці яе працы. Хіба можна лічыць ператварэнне фабрыкі ў ЗАТ «Сакавіца», якое адбылося па прапанове намі ж прызначанага новага дырэктара, намерам яе закрыць? А вось некаторыя дзеянні сённяшняга кіраўніка не выключаюць такога намеру. І нават тое, у якім стане знаходзіцца сёння пакінутае дырэктарам начынне і памяшканні прадпрыемства, ягоная дакументацыя, адсутнасць многіх матэрыяльных каштоўнасцяў, і шмат якія іншыя пытанні сведчаць, мы лічым, аб заўчасна спланаваным намеры кіраўніка пазбавіцца ад «Сакавіцы» на карысць створанага ім жа свайго ўласнага прадпрыемства альбо ператварыць «Сакавіцу» ў сваю асабістую ўласнасць. Можа, таму ён і не выканаў рашэння заснавальніка «Сакавіцы» ад 17 студзеня 2018 года аб выпуску акцый. Па стане на 27 чэрвеня 2019 года ў адносінах да ЗАТ «Сакавіца» за перыяд кіраўніцтва Сабалеўскім прад'яўлена 21 юрыдычная прэтэнзія, агульная сума крэдыторскай запазычанасці складае каля 210 тысяч рублёў. Самая вялікая дэбіторская запазычанасць перад прыватным унітарным прадпрыемствам «ЭКАПОЛІС ПРАДУКТ» – звыш 45 тысяч рублёў. Згодна з выпіскай з Адзінага дзяржаўнага рэестра заснавальнікам і кіраўніком «ЭКАПОЛІС ПРАДУКТ» з'яўляецца С.У.Сабалеўскі. Такім чынам, дырэктарам ЗАТ «Сакавіца» і дырэктарам «ЭКАПОЛІС ПРАДУКТ» за перыяд з 28 снежня 2017-га па 13 ліпеня 2018 года была адна і тая ж асоба – спадар Сабалеўскі. У дадзеным выпадку назіраецца здзелка паміж афіляванымі асобамі. Вядома ж, такая сітуацыя не магла доўжыцца. Таму рашэннем агульнага сходу акцыянераў 31 ліпеня ён быў звольнены.

Дарэчы, у час інвентарызацыі, праведзенай нядаўна камісіяй заснавальніка, была выяўлена адсутнасць на прадпрыемстве часткі арыштаванай судовым выканаўцам маёмасці і дакументаў, якія пацвярджаюць падставы знікнення дадзенай маёмасці. На сёння гэтая маёмасць выкарыстоўваецца на іншым прадпрыемстве Сабалеўскага, *арганізаваць дзейнасць якога за тыдзень і нават за месяц было немагчыма. Значыць, даводзячы «Сакавіцу» да банкруцтва, яе дырэктар вырашаў свае справы…*

Ад імя Фонду культуры, дзе, заўважым, працуюць не былыя міністэрскія чыноўнікі (такая версія гуляе ў інфармацыйнай прасторы), а ўсяго чатыры чалавекі, у асноўным выдаўцы «Краязнаўчай газеты», за мізэрную, сімвалічную аплату, кіраўніцтва ж у асобах старшыні і намеснікаў ніколі не атрымлівала і не атрымлівае ніякай платы, хацелі б яшчэ раз адназначна заявіць: Беларускі фонд культуры не меў намеру закрываць альбо пагаршаць умовы працы «Сакавіцы». Гэта зрабіў дырэктар, ад якога пацярпелі і фонд, і «Сакавіца»…

*Сітуацыю яшчэ можна было направіць і ў сакавіку і красавіку, бо дырэктару спецыяльным рашэннем выканкама і Назіральнага савета быў дадзены дазвол на рэалізацыю складской прадукцыі, а на той час па інфармацыі дырэктара яе было на 64 тысячы рублёў, праз «ЭКАПОЛІС ПРАДУКТ» для пагашэння першачарговых запазычанасцяў, у тым ліку і па энерганосьбітах – каля 10 тысяч, што дазволіла б завезці новае швейнае абсталяванне (такая дамоўленасць у дырэктара была з нямецкай фірмай) і працягнуць вытворчую дзейнасць «Сакавіцы». Падаецца, што гэта абсталяванне зараз працуе на іншым прадпрыемстве Сабалеўскага…*

**– Міжволі ўзнікае такое пытанне: чым усё ж такі выкліканы сённяшні канфлікт з кіраўніком «Сакавіцы»?**

– Напэўна, прычыны трэба шукаць раней, калі мы, назіраючы за рэальнай сітуацыяй на прадпрыемстве, пачалі прымаць больш прынцыповыя рашэнні. Перш за ўсё гэта тычылася працягу кантракта, які заканчваўся ў канцы снежня 2018 года. Дырэктар вельмі настойваў працягнуць яго на максімальны тэрмін і з максімальнай аплатай працы – амаль у 10 разоў большай, чым у работнікаў прадпрыемства, нам жа прыйшлося яго доўга пераконваць, што не можам прыняць яго прапановы з улікам аб'ектыўнай сітуацыі на «Сакавіцы». Другой прычынай можна лічыць не падтрыманую і кіраўніцтвам фонду, і акцыянерамі настойлівую прапанову Сабалеўскага па стварэнні новага ЗАТ «Гандлёвы дом «Сакавіца», заснавальнікам якога меркаваў быць сам. Гэта значыць, пакінуць «Сакавіцу» ў вялікіх даўгах, а рэалізоўваць прадукцыю праз новае прадпрыемства, не даючы гарантый пакрыцця гэтых даўгоў… Ну, а далей, калі была прызначана аўдытарская праверка, ён і галоўны бухгалтар перасталі прадстаўляць неабходныя дакументы, якія загадзя вывезлі з прадпрыемства, а потым і наогул адмовіліся ад супрацоўніцтва з заснавальнікамі.

**– Ну а што далей, канфлікт жа сам па сабе не знікне…**

– Па-першае, трэба абтрэсціся ад бруду, які выплюхнулі ў сеціве, і працаваць далей. Любымі намаганнямі трэба захаваць фабрыку, ёсць цікавыя і рэальныя праекты.

А самае галоўнае – працягнуць і надалей традыцыі Беларускага фонду культуры, першым кіраўніком якога быў вядомы пісьменнік Іван Чыгрынаў. Сёння ў склад фонду ўваходзяць многія вядомыя дзеячы і работнікі культуры, прадоўжыць ранейшыя праекты па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, працягнуць выдавецкую справу…

Вельмі шкада, што блогер Сяргей Ціханоўскі, які мае прамыя адносіны да з'яўлення відэаролікаў, так і не зразумеў, што людзі, якія працуюць у фондзе, кіруюцца не асабістымі інтарэсамі, а інтарэсамі беларускага грамадства. Ён, бачыце, пакрыўдзіўся з-за таго, што пры сустрэчы з ім у памяшканні фонду адзін з былых кіраўнікоў адмовіўся ад працягнутай рукі. А як ставіцца да чалавека, які адным махам пакрыўдзіў увесь элітны састаў культуры, з якога складаецца Рада БФК – старэйшай арганізацыі нашай краіны? Які лічыць, што лепшым месцам працы актыву БФК было б месца за кальцавой дарогай Мінска, а не яго цэнтр?

Сваімі хамскімі выказваннямі самадзейны блогер Ціханоўскі пакрыўдзіў мноства вядомых у краіне супрацоўнікаў Беларускага фонду, якія шмат зрабілі як актывісты. У гэтым кантэксце нельга не ўзгадаць прозвішчы такіх выдатнейшых людзей, як доктар навук, прафесар Адам Мальдзіс (нязменны кіраўнік праграмы «Вяртанне каштоўнасцяў з-за мяжы», якая стала цяпер ужо і дзяржаўнай праграмай),

– доктар навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч (на жаль, ужо пакойны), доўгі час быў кіраўніком праграмы «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» і складальнікам 2-томнага аднайменнага выдання БФК;

– народны мастак Васіль Шаранговіч (мастацкі афарміцель выданняў БФК),

– акадэмік Радзім Гарэцкі…

Вось за такіх паважаных асоб крыўдна, вось за іх мы будзем патрабаваць ад блогера прабачэння перад БФК і яго актывам за створаны ім відэаролік, які ад пачатку і да канца з'яўляецца выдумкай людзей без сумлення і гонару.

Так, сапраўды былі часы, калі прадпрыемства ў Маладзечне з'яўлялася крыніцай для пакрыцця камунальных выдаткаў нашай грамадскай арганізацыі і дапамагала ў выпуску адзінай у краіне «Краязнаўчай газеты» невялікімі адлічэннямі ад прыбытку. Зараз намаганнямі яе былога дырэктара Сабалеўскага прадпрыемства даведзена да банкруцтва, прыпынены выпуск газеты, навісла небяспека знікнення старэйшай у краіне грамадскай арганізацыі – БФК. Ці не гэтага дабіваўся блогер Ціханоўскі сваім так адмыслова сфабрыкаваным відэаролікам на канале «Страна для жизни»?

Напрыканцы мы хацелі б задаць аўтару відэаролікаў Сяргею Ціханоўскаму, які так «размазаў фонд па сцяне», толькі адно прынцыповае пытанне: ці можна пабудаваць «страну для жизни» на няпраўдзе і непаважлівых, хамаватых адносінах да сваіх суграмадзян?

І апошняе. З Сабалеўскім, мы лічым, усё вельмі проста: ён, гучна крыкнуўшы «Лавіце злодзея!», скарыстаўся даўно вядомым прыёмам – каб легалізаваць свае неправамерныя дзеянні. Выяўленыя новыя факты сведчаць аб даўно спланаваным рэйдарскім захопе прадпрыемства.

**Антон КАЗУБОЎСКІ.**

### АД РЭДАКЦЫІ

Вось як бывае: дзяржава пайшла насустрач Беларускаму фонду культуры, перадаўшы яму Маладзечанскую фабрыку мастацкіх вырабаў з мэтй падтрымкі яго дзейнасці, а ў выніку – банкруцтва. Мяркуем, што распаленым канфліктам зацікавяцца адпаведныя дзяржаўныя органы. «Народная Воля» не ставіць кропку ў гэтай гісторыі, пазней газета вернецца да яе і раскажа чытачам пра далейшае развіццё падзей.

ИНИЦИАТИВА

# Бюст Огинского подарил родному Слониму скульптор Вилькицкий

Ко Дню белорусской письменности, который в этом году пройдет в Слониме, в городе будет установлен бюст видного государственного деятеля князя Михала **Казимира Огинского**. Это полностью общественная инициатива. Три года назад неравнодушные к своей истории горожане создали объединение «СлонимКаналОгинского» и на средства спонсоров, а также на собственные вложения в проект прежде всего почистили русло старого канала, созданного Огинским в их городе еще в середине XVIII века.

Но главная идея объединения – собрать средства и поставить меценату, магнату и поэту Огинскому, бывшему слонимскому старосте, бюст в центре города. Деньги немалые… Сделать бюст вызвался местный скульптор **Владимир Иосифович Вилькицкий.** Причем свою работу он передал городу совершенно безвозмездно. Общественное объединение помогло лишь купить гранит для пьедестала, который, кстати, уже отшлифован и ждет момента водружения на фундамент. Над ним сейчас старательно работают инженеры и строители, потому что общий вес сооружения ни много ни мало полторы тонны.

Место для бюста также уже выбрано: в центре города, рядом с драмтеатром. Как сказал нам председатель правления ОО «СлонимКаналОгинского» **Иван Павлович Вадейко**, памятник Огинскому будет стоять на пригорочке вполоборота и смотреть на площадь Сапеги, своего родственника (жена Огинского Александра была из рода Сапегов) и предшественника на должности слонимского старосты, а также на канал собственного имени.

В будущем общественное объединение планирует все свои силы бросить на восстановление пристани на канале Огинского, а также на создание экодендропарка на территории старого русла реки Щара.

**Виктория ДРОЗД.**

РЭГІСТРАТУРА

# Арыентацыя на айчынныя лекі

Такую выснову можна зрабіць па выніках рабочай сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з міністрам аховы здароўя Уладзімірам Каранікам, якая адбылася ўчора.

Галоўныя пытанні, якія абмяркоўваліся, – закупкі медыцынскага абсталявання і цэнаўтварэнне.

Аляксандр Лукашэнка падчас размовы з міністрам падкрэсліў, што краіна траціць на закупку лякарстваў за мяжой да 500 млн долараў. «*Недапушчальна шмат. Тым больш мы можам выраблять свае лякарствы*», – сказаў Лукашэнка і нагадаў, што раней была пастаўлена задача наладзіць у краіне вытворчасць палавіны аб'ёму закупляемых лекавых сродкаў, і гэта даручэнне было выканана. «*Цяпер трэба звярнуць сур'ёзную ўвагу на субстанцыі і, як гавораць у прамысловасці, камплектуючыя гэтых лякарстваў. Трэба глыбей займацца распрацоўкай, вытворчасцю лекавых сродкаў*», – сказаў Аляксандр Лукашэнка.



ДАРЭЧЫ

# Пачынаецца суд над былым кіраўніком «Белфармацыі»

19 жніўня Мінскі гарадскі суд пачне судовае разбіральніцтва па крымінальнай справе аб карупцыйных злачынствах у сферы медыцыны ў дачыненні да 21 абвінавачанага, паведаміла прэс-служба Вярхоўнага суда.

Вядома, што будзе разглядацца справа аднаго з першых затрыманых летась па справе медыкаў – былога дырэктара Цэнтра экспертыз і выпрабаванняў у ахове здароўя **Аляксандра Сталярова**, а таксама эксгенеральнага дырэктара «Белфармацыі» **Вячаслава Гніція**. Сярод абвінавачаных і прадстаўнікі бізнесу.

«Белфармацыя» – дзяржаўны пастаўшчык лекаў на рынак Беларусі. Цэнтр экспертыз і выпрабаванняў адказвае за бяспеку, эфектыўнасць і якасць лекаў і медыцынскага абсталявання, якія закупляюцца за мяжой.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СИТУАЦИЯ

# Светлогорский ЦКК разрывает контракт с китайцами

## *Сколько страна останется должна китайских кредитов?*

ОАО «Светлогорский ЦКК» 15 августа собирается окончательно пойти на разрыв отношений с китайским подрядчиком – China CAMC Engineering Co., LTD. Напомним, что именно эта компания должна была построить на комбинате новые производственные мощности.

Сумма контрактов – более 800 млн долларов. При этом были еще и сопутствующие расходы. Их взял на себя бюджет. Это, например, оплата работ по проектированию выноса с территории застройки завода высоковольтной линии и газопровода высокого давления – 325 тысяч долларов.



Основным источником финансирования стали заемные средства от Экспортно-импортного банка Китая («Эксимбанка») и Индустриально-коммер-ческого банка Китая (Промышленный и коммерческий банк Китая, Industrial and Commercial Bank of China – ICBC), привлеченные в 2011 году. Это более 654 млн долларов. Кредитные средства были связанными и давались под гарантии белорусского правительства. Естественно, долг постоянно растет за счет процентов. Также нужно гасить комиссионные платежи, связанные с привлечением кредитных средств.

Кроме того, в 2012 году был взят кредит у «Беларусбанка» на сумму почти 170 млн долларов. Затем комбинат еще несколько раз занимал у этого банка суммы поменьше:

5,25 млн долларов (2013);
2,15 млн долларов (2014);
6,58 млн долларов (2015).

То есть комбинат должен банку не менее 182 млн долларов. По этим кредитам, в том числе по взятому в 2012 году, «Беларусбанк» получил в 2018 году гарантии правительства Беларуси в погашении основного долга и уплате части процентов.

Общий долг по кредитам у ЦКК составляет не менее 836 млн долларов. При этом китайский подрядчик, как известно, не довел свою работу до конца. Но он уже успел получить около 761 млн долларов. Не оплачено только 43,53 миллиона. В ближайшем будущем необходимо будет изыскать средства для финской компании Andritz Oy. Именно она, по решению белорусской стороны, должна будет доделать то, что не закончили китайцы. Власти хотят, чтобы это было сделано в четвертом квартале 2019 года, то есть фактически до 31 декабря. Предполагается, что на эти работы уйдет еще 13 млн долларов. Причем утверждается, что это будут «собственные средства», а не кредиты. То есть при позитивном сценарии стоимость нового производства не должна превышать 900 млн долларов.

Напомним, что новые мощности комбината должны были заработать еще в 2015 году. Предприятие планировало выпускать 400 тысяч тонн сульфатной беленой целлюлозы в год.

**officelife.media**

СКАНДАЛ

# Ігар Кузняцоў, гісторык: «Аптымізму мала, але вынік ёсць…»

*Вядомы вучоны, даследчык сталінскіх рэпрэсій Ігар Кузняцоў атрымаў чарговы адмоўны адказ з пракуратуры на сваю скаргу з нагоды адмовы прыцягнуць да адказнасці за паклёп аўтара газеты «СБ. Беларусь сегодня» Андрэя Мукавозчыка.*



Аб гэтай скандальнай сітуацыі мы ўжо расказвалі. Сцісла нагадаем сутнасць справы.

Яшчэ 17 красавіка на сайце «sb.by – Беларусь сегодня» з'явілася публікацыя Андрэя Мукавозчыка «Лжеисторики. Есть такие «историки», которые поневоле заставляют сомневаться, наука ли она – их история». Лжэгісторыкам аўтар назваў кандыдата гістарычных навук Ігара Кузняцова. Вучонага, безумоўна, гэты факт абурыў, і ён звярнуўся да галоўнага рэдактара выдання Д.Жука з просьбай абвергнуць распаўсюджаныя пра яго *«клеветнические измышления»*. У гэтай просьбе яму было адмоўлена, але пазней дадзены артыкул быў выдалены з сеткавага выдання sb.by.

Гісторыка такі адказ рэдакцыі на яго прэтэнзію не задаволіў, і ён звярнуўся ў пракуратуру Савецкага раёна Мінска з просьбай прыцягнуць А.Мукавозчыка да адказнасці за паклёп. Пракуратура перадала скаргу ў РАУС, адкуль Кузняцоў атрымаў адказ, які змясціўся ў адзін абзац, што падстаў для ўзбуджэння справы няма. Тады Кузняцоў паўторна звярнуўся ў раённую пракуратуру. На гэты раз яго скаргу перанакіравалі ў Галоўнае ўпраўленне ўнутраных спраў Мінгарвыканкама – вышэйшую інстанцыю, але там скаргу разглядаць не сталі, а спусцілі ніжэй, ізноў у РАУС Савецкага раёна.

21 ліпеня Кузняцоў атрымаў з міліцыі чарговую адмову. Праўда, цяпер разам з пастановай аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы Ігару Кузняцову растлумачылі, чаму прынята такое рашэнне. *«В ходе проверки не получено достаточно данных, указывающих на то, что в действиях Муковозчика А.Н. усматривается состав преступления, предусмотренный ч.2 ст.188 УК Республики Беларусь, поскольку последний высказал свое личное мнение по материалам, предназначенным для распространения, за своей подписью»*, – разюмавалі міліцыянеры.

Такі адказ гісторыка, натуральна, не задаволіў, і ён зноў звярнуўся ў пракуратуру Савецкага раёна з просьбай адмяніць і гэтую пастанову Савецкага РАУС і накіраваць матэрыялы на дадатковую праверку з мэтай распачаць нарэшце крымінальную справу.

Нядаўна гісторык атрымаў адказ і на гэты зварот у пракуратуру Савецкага раёна, дзе ўказваецца, што праверка была праведзена аб'ектыўна і ў поўным аб'ёме, таму падстаў для прыняцця мер пракурорскага рэагавання няма. Кузняцоў жа адрэагаваў на такі адказ чарговым зваротам у пракуратуру – на гэты раз накіраваў ліст на імя пракурора Мінска з патрабаваннем распачаць крымінальную справу супраць Мукавозчыка, таму што папярэдняя праверка, лічыць ён, была праведзена няпоўна і неаб'ектыўна. *«Савецкі РАУС і пракуратура Савецкага раёна паклёпніцкія выдумкі кваліфікуе як асабістае меркаванне аўтара, якое супярэчыць нормам права і маралі»*, – указаў Кузняцоў у дадзеным звароце.

**– Ігар Мікалаевіч, не стаміліся змагацца? Здаецца відавочным, што прыцягнуць аўтара публікацыі «Лжеисторики» да адказнасці наўрад ці атрымаецца**, – звярнуліся мы за каментарыем да гісторыка.

– У мяне яшчэ ёсць права звяртацца ў Генпракуратуру і суд, – заўважае Кузняцоў. – Але, на жаль, мой досвед паказвае, што суды ў падобных сітуацыях выводзяць разгляд справы за рамкі судовага працэсу, каментуючы, што гэта спрэчка па навуковых, палітычных пытаннях. Двойчы гэта здаралася ў маёй практыцы – у 1998-м і 2017 годзе, калі прадстаўнікі беларускіх камуністаў у сваіх публікацыях на тэму Курапатаў пісалі пра мяне адкрытыя пасквілі, называючы фальсіфікатарам гісторыі. Таму зараз я свядома звярнуўся ў пракуратуру, палічыўшы, што яна дасць прававую ацэнку такім публікацыям.

**– Замкнёнае кола атрымліваецца…**

– Так, аптымізму мала, але вынік ужо ёсць! Галоўнае, што я зрабіў, – абараніў не толькі сябе. Яны ствррылі прэцэдэнт! Бо з усіх гэтых адказаў вынікае, што сёння любы чалавек можа прымяняць у СМІ падобныя выразы і не несці ніякай юрыдычнай адказнасці. То бок напісаць у рэспубліканскай газеце «лжэпракурор», «лжэжурналіст» і заявіць, што гэта асабістае меркаванне аўтара. Калі Мукавозчык мае права трансліраваць у рэспубліканскіх СМІ сваё асабістае меркаванне, выкарыстоўваючы падобныя выразы, значыць, і іншым гэта не забаронена.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Запрашэнне на плоў

Што і казаць, не шанцуе былым прэзідэнтам Кыргызстана – два з іх вымушаны былі прасіць палітычнага прытулку за мяжой, трэці нядаўна апынуўся за кратамі, узняўшы белы сцяг над уласным домам, абложаным з усіх бакоў, як Брэсцкая крэпасць. Як выглядае, палітуцекачы Аскар Акаеў і Курманбек Бакіеў паступілі больш разважліва за Алмазбека Атамбаева; першы, як толькі згубіў уладу, асеў у Маскве, заручыўшыся падтрымкай Пуціна, другі паспеў прызямліцца ў Мінску.

Дзевяць гадоў таму ў Кыргызстане за збеглага Курманбека Бакіева ніхто і гарэлага шэлега не даў бы. Не кінецца даваць і сёння. А вось высілкамі афіцыйных СМІ Беларусі Бакіеў стаў у нас ледзь не адзіным увасабленнем беларуска-кіргізскай дружбы. Праўда, гэтым увасабленнем сур'ёзна цікавіцца кіргізская Феміда, у сувязі з чым з Бішкека ў Мінск неадноўчы дасылаліся адпаведныя запыты. Выходзіць, дзеля малаўцямнай дружбы з адным кіргізам Беларусь ставіць пад сумнеў дружбу і супрацоўніцтва з цэлым Кыргызстанам. Дзіўны, трэба сказаць, палітычны гешэфт.

Апафеозам той гешэфтнай дружбы стаў нядаўні 70-гадовы юбілей Курманбека Бакіева, якога Аляксандр Лукашэнка падкрэслена называе сваім асабістым сябрам. Што ж, называй хоць гаршком, але ў печ не стаў. Тым больш што «гаршчок» прыватны, а «печ» дзяржаўная. Але без печы не абышлося.

Адбылося тое векапомнае дзейства нядаўна ў Палацы Незалежнасці з уручэннем юбіляру дарагіх падарункаў, пад тэлекамерамі БТ, з удзелам мілавідных супрацоўніц з пратакольна-паслужлівымі позіркамі. Падчас паднясення дароў (сярод якіх была карціна «Паляванне качэўнікаў з беркутам») прагучаў дыялог, які хочацца прывесці ў арыгінале, у запісе прэс-службы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:

**Бакіеў:** «О, это моя страна – кони, беркуты».

**Лукашэнка:** «Твоя страна и твоя стихия. Птица эта гордая, на тебя похожа».

**Бакіеў:** «Огромное спасибо!»

**Лукашэнка:** «Подожди, спасибо не отделаешься. Вот мы все и придем к тебе на день рождения».

**Бакіеў:** «С удовольствием!»

**Лукашэнка:** «Плов! Ты можешь приготовить нам киргизский плов?»

**Бакіеў:** «Настоящий, сам буду делать, от и до».

**Лукашэнка:** «Вино мы принесем свое...»

П'еса атрымалася – хоць на тэатральнай сцэне стаў. Не сумняваюся, што Бакіеў стрымаў слова і згатаваў цалюткі казан смачнага плову. А лукашэнкаўскі вінагарпій нацадзіў для свайго патрона ёмістую бутлю. Застолле, трэба думаць, удалося на славу, з розгаласам на ўсе Дразды, непадалёк ад якіх ва ўласным асабняку жыве кіргізскі экс-прэзідэнт. Відаць, былі апарожненыя да дна і саган, і бутля. Што ж, на здароўе.

І усё ж, чаму пасля юбілейнага рэпартажу на БТ застаўся ў маёй душы прыкры асадак?

Мабыць, таму, што я не разумею, за якія заслугі перад беларускім народам асуджаны на радзіме да 30 гадоў турмы Курманбек Бакіеў атрымаў не толькі беларускі пашпарт, але і ладную дзялянку беларускай зямлі ў прэстыжным месцы.

Мне таксама незразумела, чаму асабістая дружба кіраўніка Беларусі павінна аплачвацца з народнай (у тым ліку і маёй) кішэні.

Мне ніхто не патлумачыў, якая «рабочая сустрэча» магла адбыцца пасля віншавальнай часткі паміж Аляксандрам Рыгоравічам і Курманбекам Саліевічам? Што, Бакіеў прыхоплены ў Кыргызстане мільёны ўклаў у нашу эканоміку? А можа, прывёў на беларускі рынак багатых інвестараў? Ці – адкрыў у Мінску на сумленна зароблены грошы сетку закусачных «Хуткі плоў»?

Прыкрага асадку дадае і той факт, што юбілеі выдатных беларусаў праходзяць у нашай краіне незаўважана, без «плову і віна». Скажам, сёлета адзначыў свой юбілей народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, які падарыў дзяржаве цэлую галерэю сваіх карцін. І што – прыйшоў да яго з пляшкай віна кіраўнік краіны? Не. Гэтаксама не заўважаў ён юбілейныя даты народных паэтаў Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча, народнай артысткі Зінаіды Бандарэнка, вядомага ў свеце навукоўца Барыса Кіта…

Перад прыходнямі з сумнеўнай рэпутацыяй дыванкі рассцілаюцца, а сваім дзеячам – нуль увагі і мізэрныя пенсіі.

А тым часам збеглых прэзідэнтаў па свеце – хоць гаць гаці. Можна запрасіць у Беларусь Віктара Януковіча, хай на сваё дні нараджэння гатуе ў Драздах галушкі. Можна даць прытулак Міхаілу Саакашвілі, каб пры нагодзе палачаваць хачапуры. Можна перавабіць да сябе з Масквы таго ж Акаева – хай на змену з Бакіевым кухарыць.

Той з'еты пад беларускае віно бакіеўскі плоў ужо адрыгнуўся Беларусі – часовы паверены нашай краіны ў Кыргызстане быў выкліканы ў кіргізскае МЗС, дзе яму ўручылі ноту пратэсту, у якой канстатавалася недапушчальнасць афіцыйных кантактаў з асуджаным у Бішкеку асобай. Гэта ў музыцы ноты можна браць бясконца, і акаляючых хіба толькі паморшчыца, а дыпламатычныя ноты гучаць з куды больш сур'ёзнымі наступствамі. І гандлёвыя войны пасля іх пачынаюцца, і міждзяржаўныя стасункі спыняюцца.

Мінскі трактарны завод доўга дамагаўся стварэння ў Кыргызстане прадпрыемства па зборцы сваёй прадукцыі. Завод нарэшце запрацаваў, і прыстасаваны пад азіяцкія ландшафты і клімат «Беларусы» працуюць па ўсім рэгіёне. А спыніць канвеер кіргізы, і чым нам тады дапаможа палітычны ўцякач, «на гордага беркута падобны»?

Той бакіеўскі плоў яшчэ не раз можа нам адрыгнуцца...

СЛЫХАЛІ?

## За взятки судят сотрудника Управделами президента

В Минске судят бывшего сотрудника Главного хозяйственного управления Управделами президента Евгения Нестеровича. Его обвиняют в получении взяток на сумму 15,5 тысячи долларов. По версии следствия, он заключал договоры на поставку техники с определенными компаниями, которые впоследствии платили ему за это так называемые откаты. Оборудование предназначалось в числе прочего для Овального зала Дома правительства, где заседает парламент.

В клетке рядом с Нестеровичем – бизнесмен Сергей Бурый, который дал взятку 10 тысяч долларов. Оба фигуранта полностью признают вину. Еще два взяткодателя от уголовной ответственности освобождены: они проходят по делу как свидетели.

Евгений Нестерович почти два с половиной года работал в Главном хозяйственном управлении Управделами президента. Он был заведующим сектором, который занимался материальным обеспечением органов госуправления – заключением договоров на закупку мебели, техники и т.д. для Дома правительства, Администрации президента, Верховного суда, Конституционного суда и других ключевых республиканских органов власти.

**Кирилл БУБНОВ.**

*«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

О ЧЕМ ГОВОРЯТ...

# Может ли Путин присоединить Беларусь одной левой?

«Объединение с Беларусью? А что может помешать?» Таким риторическим вопросом ответил на вопрос украинского журналиста Дмитрия Гордона главный редактор радиостанции «Эхо Москвы» Алексей Венедиктов.

Поскольку этот тертый калач – на короткой ноге с важными людьми в кремлевских кабинетах, его мнение заслуживает внимания.

Давайте разберемся: действительно ли стоит лишь Владимиру Путину сильно захотеть (например, чтобы остаться у руля после 2024 года, когда у хозяина Кремля заканчивается второй подряд срок президентства) – и приращение земель за счет союзной Беларуси окажется только делом техники?

### Цена вопроса

По мнению Венедиктова, «всё – цена вопроса». Он рассуждает о некоем объединительном плебисците или ином политическом решении: «А как проголосуют, если будет голосование: белорусский народ, хотите ли вы жить счастливо и богато вместе с Россией? «Да и… а какая нам разница» (…) А может быть, нужен совсем не референдум, а нужно решение двух парламентов. Ну, с депутатами у нас разговор короткий…»

### Подвешенная интеграция. Судьба Беларуси будет поставлена на дорожную карту

Да, тщательно отфильтрованные на выборах депутаты что в России, что в Беларуси безропотно штампуют решения по отмашке. Референдумы, равно как и выборы, Александр Лукашенко раз за разом проводит в нужном ему русле, с нужным результатом. Но захочет ли он оформить слияние государств таким же образом, как оформляет раз за разом продление и укрепление своей власти над Беларусью?

Да уж вряд ли. По той простой причине, что здесь итог вырисовывается как раз обратный – власть придется отдавать. Или вы думаете, что Москва добивается углубленной интеграции ради того, чтобы вымостить Лукашенко дорогу в Кремль?

Стоит добавить, что Путин уже пытался поставить ребром вопрос о вхождении Беларуси в Россию. Тогда, в 2002-м, Лукашенко возмущался: мол, даже Сталин не додумался бы предлагать вступать шестью областями. Тот натиск Минск отбил.

### А чем могут купить белорусского президента?

Не раз были вбросы, что белорусскому руководителю предлагают некую вторую по рангу должность в гипотетическом объединенном государстве. Но невозможно поверить, что такое предложение окажется заманчивым для человека, который, во-первых, давно вошел во вкус полного обладания целой страной, а во-вторых, крайне обостренно относится к вопросу своей личной безопасности и будущего семьи (в широком смысле слова).

Стань он каким угодно высоким сановником в кремлевской системе – любые гарантии безопасности не будут стоить выеденного яйца. Живые примеры перед глазами, когда тамошние фавориты вдруг оказываются не у дел, губернатор (Никита Белых) или министр (Алексей Улюкаев) может легко загреметь в тюрьму и т.д.

Лукашенко за годы «братской интеграции» прекрасно изучил византийское коварство кремлевской политики. Да и в принципе Путин, если разобраться, не может предложить белорусскому властителю нечто более привлекательное, нежели его, Лукашенко, нынешний статус.

Стоит добавить, что и у белорусского правящего класса, и у здешнего бизнеса есть серьезные основания опасаться, что приход сюда России сметет их с нынешних комфортных позиций.

Наконец, социология показывает, что и среди населения в целом идея вступить в Россию непопулярна. И напротив, велика (85,6% согласно опросу Исследовательского центра ИПМ) доля готовых защищать страну (хотя понятно: декларация и реальная готовность лечь под танк – разные вещи).

### Если попробуют по-плохому…

Но если кто-то не хочет по-хорошему, можно попробовать и по-плохому, заметите вы. Так ведь Москва не раз и пробовала: и газ перекрывала, и «Крестными батьками» Лукашенко мочила. Но тот неизменно принимал вызов и наносил довольно эффективные контрудары на фронтах нефтяных, газовых и прочих войн. Российская сторона в итоге шла на компромисс.

Да, после декабрьского 2018 года «ультиматума Медведева» (российский премьер предложил выбирать: или продвинутая интеграция, или урезание субсидий) Москва особенно серьезно показывает намерение посадить союзника на голодный паек: отказывается платить компенсацию за налоговый маневр, не дает кредитов, подвесила вопрос о цене газа с 2020 года и прочее.

Однако и это, похоже, не сделало Минск особо уступчивым. Переговоры об углубленной интеграции затянулись, и российское руководство, судя по косвенным симптомам, вынуждено снижать свои запросы.

### Лукашенко будет топить углубленную интеграцию в переговорном болоте

В итоге стороны заговорили лишь о подготовке дорожных карт по секторам. Что означает сближение промышленной, сельскохозяйственной, налоговой, таможенной и прочих политик, гармонизацию законодательства, но отнюдь не инкорпорацию. Согласовывать же эти вещи можно до бесконечности, хотя бы потому, что экономические модели очень разные.

Да, Москва сокращает и, скорее всего, продолжит сокращать финансово-экономическую поддержку Беларуси. Но Лукашенко, по логике вещей, склонен скорее пойти на стагнацию или даже проседание жизненного уровня белорусов, чем на сдачу независимости.

Белорусы терпеливы, а машина обеспечения нужного результата на выборах работает безотказно. В конце концов силовой кулак таков, что любые майданы можно подавить в зародыше.

### Ахиллесова пята

Вариант же силового присоединения Беларуси аналитический мейнстрим считает маловероятным. Почему – особый разговор, в эту статью он не влезет.

Отмечу лишь, что хотя разница в мощи армий огромна, белорусские войска с «Полонезами» и прочими серьезными штуковинами могут нанести агрессору неприемлемый ущерб. А на международной арене Россия стала бы в таком случае изгоем в квадрате. И это тоже та цена вопроса, о которой упоминает господин Венедиктов.

Другое дело – будут ли в подобном случае белорусские войска выполнять приказы, станут ли драться? Это не факт, если, во-первых, иметь в виду степень русифицированности личного состава, а во-вторых – представить себе некую ситуацию управленческого хаоса, например – когда главнокомандующий по каким-то причинам не в состоянии выполнять свои функции.

### Политическую систему Лукашенко реформирует так, чтобы ничего не менять

В принципе, это и есть ахиллесова пята белорусского суверенитета – то, что вся система завязана на одну персону. Любой человек, даже в бронированном «майбахе», уязвим и уж точно не вечен.

Стране нужны реформы, чтобы ослабить экономическую зависимость от России, развить многовекторность. Нужно формировать сильный политический класс, укреплять гражданское общество, национальное самосознание. Но все эти задачи так или иначе входят в противоречие с интересом консервации персоналистского режима.

Отсюда вывод: хотя голыми руками Беларусь не возьмешь, при нынешней системе власти и нынешнем руководстве риски для суверенитета будут оставаться очень серьезными или даже нарастать. Независимо от того, как Путин станет решать для себя проблему-2024.

Положа руку на сердце, при смене власти в Беларуси такие риски могут только усилиться. Но это тоже отдельная тема.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**

*(Naviny.by.)*

ФАКТ

## Аршанскі інструментальны завод атрымае каля 10,2 млн рублёў

Днямі А.Лукашэнка падпісаў указ аб інавацыйных праектах. Сярод прадпрыемстваў, якія атрымаюць інвестыцыі, і ААТ «Аршанскі інструментальны завод». Гэта тое прадпрыемства, пасля наведвання якога летась Аляксандр Лукашэнка зладзіў разнос ураду, а пазней зняў з пасады тагачаснага прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова і змяніў многіх міністраў.

Аршанскі завод, дарэчы, на 100% належыць дзяржаве. Па выніках 2018 года ён атрымаў чысты прыбытак у суме больш за 3 млн рублёў, хаця ў 2017-м меў страты амаль на 2 мільёны.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 ЖНІЎНЯ 2019 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Не вяселле, а хаўтуры з-за фальшывае купюры

У брэсцкае аддзяленне банка маладзён прынёс для абмену фальшывую 100-доларавую купюру. Касірка выклікала міліцыю. Высветлілася, што падробку на вяселлі (яно гулялася ў Гродне) жаніху падарыў нехта з гасцей. Зараз следчыя высвятляюць, хто «падклаў свінню» маладым.

Шмат на вяселлі весялосці!
Ды апагей усё ж, сябры,
Як жаніху й нявесце госці
Падносяць шчодрыя дары.
У маладых настрой харошы,
У іх душэўны лёгкі ўздым…
Апошнім часам госці грошы
Звычайна дораць маладым.
І ў тым я дрэннага не бачу:
Як ёсць даляры і рублі,
Дык можна дом купіць і дачу
Або пуцёўку на Балі.
Прычым падносяць у канверце
Грашовы дар – не напаказ,
Маўкліва кажучы: «Паверце,
Што там салідны куш для вас!»
Ды не заўжды канверты тыя
Утрымліваюць важкі ўзнос.
Бывае, што яны пустыя
Ці ў іх паперы чыстай стос.
Спадзеў: не вылічыць нявеста,
Не здагадаецца жаніх,
Хто дарагіх купюр заместа
Паперу прыбярог для іх.
Горш, як фальшывую банкноту
Хтось у канверцік пакладзе.
Займее той жаніх турботу
Або наогул быць бядзе.
Калі захоча ў хуткім часе
З даляраў «выплавіць» рублі,
Яго ў любой ашчаднай касе
«Прыціснуць тварам да зямлі».
І будзе слёзы ліць нявеста:
Муж стане зэкам не на год.
Прынамсі, муж няшчасны з Брэста
У гэткі трапіў пераплёт.
Прынёс фальшывыя даляры,
Калі вяселле адгуло.
Магчыма, не пазбегне кары
І мецьме змрочнае жытло,
А можа, тых, што на вяселлі
Лілі гарэлку ў гарлякі
І каравай святочны елі,
За шкіркі возьмуць следакі.
З-за аднае тае купюры
Ці раз на тыдзень, ці штодня
На допыты, як на хаўтуры,
Хадзіцьме іхняя радня.
Ці ж даспадобы людзям гэта?
У рэшце рэшт, здаецца мне,
Хтось і самога прайдзісвета,
І ўсё вяселле пракляне…

* * *

Пусты канверт, даляр фальшывы
Для маладых – удар пад дых.
І гэтак многія грашылі…
Звяртаюся да маладых:
Каб не дарылі госці «фігі»,
Каб вы спакойнымі былі,
Прасіце, каб дарылі кнігі
Ці металічныя рублі!

### Ад вялікага да смешнага

На жаль, раблю я многа грэшнага,
Люблю, напрыклад, пасядзелкі,
Дзе ад вялікага да смешнага
Тры шклянкі спірту ці гарэлкі.

### Прысуд бабулі

Картэж вясельны, быццам куля,
Ляцеў на зайздрасць люду.
– Яшчэ адну, – прысуд бабулі, –
Павезлі мыць пасуду…

### Апошні

Палюбоўнікаў багата.
Хто апошні, той і тата.

### Шрамы

– Ты жонцы гаварыў хоць раз,
Пра што ты думаеш падчас?
– Казаў… Таму і зведаў драмы.
Магу я паказаць і шрамы…

### Пасля карпаратыву

Усіх нас даймала смага,
І выдых пачуўся цяжкі:
– Адна галава – няблага,
Ды лепей усё ж – дзве пляшкі…

### Студэнт у рэстаране

Калі студэнт завёў раман,
Прывёў дзяўчыну ў рэстаран
(А грошай вечна не стае),
Што ўчуць жадае ад яе?
– Усё тут па такой цане!
А пойдзем лепей да мяне…

### Не гіпс, а мармур

Раз багацей зламаў руку.
І доктар кажа бедаку:
– Бываюць большыя няшчасці…
Вам неабходна гіпс накласці.
А ён адказвае ўрачу:
– Кладзіце мармур! Заплачу.

### Найлепшая яда

– Салата з капусты, сынок,
Найлепшая ў свеце яда:
Не выкажа хтосьці папрок,
Калі ж і з'ядуць – не шкада…

«НЕПРИЧЕСАННОЕ» ПИСЬМО

# Не остаться же нам без воды…

**В редакцию газеты «Народная Воля».**

Любимая газета, помогите, пожалуйста, пресечь беспредел, который, с согласия председателя Чирковичского сельского Совета В.П.Лахардова, творят собственники дома №27 по улице Советской агрогородка Чирковичи Светлогорского района Гомельской области!

Немного истории. Много лет назад жильцы домов с 14-го по 33-й улицы Советской деревни Чирковичи собрали деньги, купили железобетонные кольца и построили на территории улицы колодец, разместив его между домами №25 и №27 по ул.Советской. Колодец служил верой и правдой до июля текущего года, до тех пор, пока бывший владелец Виталий Ильич Сергеев не обменял этот дом на квартиру в городе Светлогорске. Ранее бывший владелец, обустраивая свою усадьбу, построил новый забор от улицы, вынес его на расстояние около одного метра в сторону улицы, то есть самовольно (!) захватил около метра уличной земли, после чего колодец частично оказался на территории усадьбы домовладения по адресу ул.Советская, д.27, но колодец В.И.Сергеев не трогал, и люди им пользовались.

Новый владелец начал благоустройство этой усадьбы с демонтажа колодца, предварительно заручившись согласием председателя Чирковичского сельского Совета. Когда он обратился к В.П.Лахардову, последний сказал: «Этот колодец на балансе у Чирковичского сельского Совета не состоит, поэтому делайте с колодцем что хотите». И колодец с чистой, вкусной питьевой водой стали превращать в канализационный колодец. А то, что дома №№23,30,32 остались без воды, так как не подключены к водопроводу, и то, что в случае поломки, аварии в водонапорной системе отключение воды может оставить людей без воды на сутки, а может, и на трое суток и в связи с ликвидацией колодца не будет где взять даже литр воды, депутату В.П.Лахардову, слуге народа, крайне безразлично, хотя жильцы близлежащих домов обращались к нему за помощью. Но в ответ – тишина.

Еще ранее на улице Советской было много водопроводных колонок, но впоследствии государственные службы их демонтировали. А теперь вот разрешают демонтировать колодцы, построенные за деньги жителей тогда еще деревни Чирковичи, даже не спросив у этих жителей согласия.

Просим выслать корреспондента Вашей многоуважаемой газеты, заснять все и опубликовать в Вашей правдивой газете материал об этой дикости – превращении действующих колодцев с питьевой водой в канализационные колодцы с одобрения местного чиновника.

Государство подавляющему большинству людей платит нищенскую зарплату, пенсионерам – мизерные пенсии, за которые прожить просто невозможно. В городе Светлогорске запустили в эксплуатацию завод беленой целлюлозы, который выбрасывает в атмосферу бесцветный ядовитый газ с сильным неприятным запахом, который напоминает запах гнилой капусты. Этот газ травит и взрослых, и детей, а теперь вот решили и чистую воду у людей отобрать.

Помогите вернуть колодец жителям!!! Ведь не зря же СМИ называют четвертой властью в стране. Привлеките, пожалуйста, внимание белорусов к этой проблеме! Без Вас нам никак не справиться!

С огромным уважением к Вам – жители улицы Советской в агрогородке Чирковичи Светлогорского района Гомельской области.

**Валентина Николаевна ШКОДА.**

### *ОТ РЕДАКЦИИ*

Не знаем, как поступили бы с этим письмом коллеги из государственных газет, но мы сразу решили: печатаем! Не для того, чтобы *«привлечь внимание белорусов к этой проблеме»*. Проблема-то как раз не национального значения, а если говорить откровенно, то не стоящая выеденного яйца. На добрый лад, пусть бы собрались у того же колодца мужики, живущие по соседству, поставили бутылку хорошего напитка, разлили по сто граммов, выпили, поговорили, пожали друг другу руки и приняли единственно правильное решение: служил колодец много лет – пусть служит на пользу всех нуждающихся в хорошей питьевой воде и дальше. А когда отпадет в нем необходимость (отладится водонапорная система), тогда и проблема с колодцем сама по себе исчезнет.

А что касается позиции председателя сельсовета, депутата В.П.Лахардова, то давайте ему всем миром скажем: если Вы, главный представитель местной власти, не смогли разрулить эту мелкую ситуацию, а вызвали нарекания со стороны деревенских жителей, то не лучше ли Вам передать ключи от кабинета другому человеку?

Мы позвонили председателю Светлогорского райисполкома Дмитрию Вадимовичу Алейникову, проинформировали его, сказав, в каком номере «Народной Воли» будет напечатано письмо В.Н.Шкоды, – с надеждой, что второй раз возвращаться к «спорному колодцу» газете не придется.

ПАДЗЯКА

# Свет не без добрых людзей

Нядаўна наш тэатр фальклору запрасілі ўзяць удзел у святкаванні 75-й гадавіны вызвалення Давыд-Гарадка, што ў Столінскім раёне. А як ехаць, калі, лічы, усе артысты пенсіённага ўзросту, бюджэт у іх сціплы. Хоць жаданне ў чарговы раз пабываць на Палессі, выступіць перад удзячнымі гледачамі вялікае. Як быць? І тут з'явілася прапанова: свет не без добрых людзей – давайце звярнемся да некаторых з тых, хто мае нешта ў запасах.

Узгадалі паспяховага прадпрымальніка, які адначасова і пісьменніцкай справай займаецца, – Валерыя Іларыёнавіча Сароку. Дай Бог яму здароўя – адгукнуўся, дапамог. Дзяліцца чым можаш – гэтаму, мабыць, яго навучылі бацькі, якія жылі ў вёсцы Скакуноўшчына. На іх сядзібе быў пасаджаны вялікі сад, які і ў наш час штогод радуе добрым ураджаем. Смачнымі яблыкамі з сямейнага саду Валерый Іларыёнавіч любіць частаваць і нас, артыстаў народнага фальклорнага тэатра.

Каб мы выступілі перад жыхарамі Давыд-Гарадка, свой унёсак зрабіў і яшчэ адзін прадпрымальнік – Франц Баляслававіч Жылка, які займаецца абутковай вытворчасцю. Нашу творчую паездку







падтрымаў і менеджар Юрась Котаў. Дзякуй вам, добрыя людзі!

Да канца жніўня мы пабываем яшчэ на малой радзіме – у горадзе Тураве Жыткавіцкага раёна. Славуты куток над Прыпяццю прыме артыстаў-ветэранаў такіх вядомых народных калектываў, як «Прыпяць», «Верасок», «Ніва», «Кола» і іншыя.

Моцы і здароўя ўсім, хто нас падтрымлівае! А мы будзем і надалей з любоўю і пашанай ставіцца да творчых здабыткаў продкаў і лепшыя традыцыі перадаваць нашчадкам.

**Мікола КОТАЎ,
мастацкі кіраўнік тэатра «Матуліна хата», фалькларыст.**

З НАГОДЫ

## «А вы далей кажыце, што па-беларуску фізіку і астраномію вывучаць немагчыма»

Днямі настаўнік астраноміі ліцэя БДУ **Віктар Малышчыц** на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» напісаў: *«У нас добрая навіна! Наша ліцэістка* ***Міраслава Булгакава*** *вяртаецца з Венгрыі з Міжнароднай алімпіяды па астраноміі і астрафізіцы з бронзай! І хоць бронзавы медаль – гэта далёка не першае месца і наш вынік не ўнікальны, заваяваць яго таксама вельмі і вельмі складана. Напрыклад, наша краіна ў мінулы раз увогуле прыехала без медалёў, а медаль Міраславы – адзіны сёлета ў беларускай камандзе. А вы далей кажыце, што па-беларуску фізіку і астраномію вывучаць немагчыма».*

Алімпіяда праходзіла з 2 да 10 жніўня ў венгерскім горадзе Кестгей.

Малышчыц, дарэчы, выкладае свой прадмет па-беларуску. Яго вучаніца Міраслава Булгакава сёлета як пераможца нацыянальнай алімпіяды паступіла ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт без экзаменаў.

**Іван ШЫРОКІ.**

ЖИТЕЙСКАЯ ТЕМА

# Хотите иметь дополнительную пенсию: Вас ждут в «Стравите» и «PriorLife»

Полагаю, многие слышали о так называемых системах страхования дополнительной пенсии, которые существуют в странах Европейского Союза и даже в Российской Федерации. А знаете ли вы, что в Республике Беларусь имеются две организации, которые также оказывают подобного рода услуги: **«Стравита»** и **«PriorLife».**

В свое время заняться страхованием дополнительной пенсии мне посоветовала знакомая, уже имевшая подобный опыт в этом деле. Дополнительным мотивом задуматься о правильном вложении средств после продажи доставшейся по наследству недвижимости для меня стала настойчивость моего весьма проблемного друга. Будучи заядлым любителем поездок в Болгарию во время отпуска, он упорно внушал мне мысль о полезности покупки квартиры в этой географически не слишком близкой стране. Но я не рискнул пойти на такой шаг. Выбрал вариант, который мне посоветовала знакомая.

Два года назад я заключил договор добровольного универсального страхования дополнительной пенсии с республиканским дочерним унитарным страховым предприятием «Стравита» на основании лицензии Министерства финансов Республики Беларусь сроком на 23 года 6 месяцев, то есть до достижения мной 63-летнего возраста. «Стравита» является дочерним подразделением Министерства финансов Республики Беларусь, что внушает хоть какое-то ощущение надежности.

Моя страховая сумма составила более двадцати тысяч рублей, ежемесячный страховой взнос – 50 рублей. При достижении пенсионного возраста в случае регулярной уплаты взносов мне будет полагаться дополнительная пенсия, эквивалентная 120 долларам США. У конкурирующей компании «PriorLife» выплата страховых взносов производится в долларах и евро.

Согласно заключенному со мной договору, в случае его досрочного прекращения, скажем, по причине смерти или признания судом моей недееспособности мне будет выплачена сумма в размере средств, накопленных на именном лицевом счете.

Общаясь со многими людьми, я замечаю их непонимание необходимости страхования дополнительной пенсии. Некоторые мои собеседники не верят в долговечность страхового предприятия «Стравита», несмотря на его более чем двадцатилетний стаж работы. Кое-кто мне настойчиво советовал просто откладывать по 25 долларов ежемесячно на банковский счет. На что я резонно отвечал, что в наше время при существовании множества туристических соблазнов весьма непросто людям молодого и среднего возраста придерживаться какой-то экономии. А вот обязательность ежемесячного платежа вкупе со льготами по социальному налогу на основном месте работы как раз является формой приучения человека к финансовой самодисциплине. О серьезной репутации Республиканского дочернего унитарного страхового предприятия «Стравита», оказывающего широкий спектр услуг, говорит и тот факт, что его услугами пользуются все работники коммунального унитарного предприятия «Минскэнерго».

Окончательно в моей правоте меня убедил знакомый пенсионер, ранее трудившийся в аппарате Управления Белорусской железной дороги. Он сообщил, что после 20-летней уплаты взноса в «Стравиту» он теперь получает ежемесячно в дополнение к трудовой пенсии 550 рублей еще и страховую в размере 200 рублей. Как видите, довесок солидный!

Мне думается, что нашему обществу надо еще учиться и учиться финансовой грамотности. К тому же нужно преодолевать сложившийся стереотип, согласно которому человек должен удовлетворить все свои жизненные потребности примерно до 65 лет, пока его держат на работе. А потом – хорошо знакомая многим поколениям стариковская философия: хлеб, молоко, картошка есть, руки-ноги двигаются, значит, можно считать жизнь хорошей. В плане социальной философии нашим согражданам пора перенимать лучший мировой опыт. Ведь даже в Российской Федерации у газовиков, нефтяников и железнодорожников существует страхование дополнительной пенсии.

**Сергей ГРИГОРЬЕВ.**
*г.Дзержинск.*

ДЫСКУСІЯ

# Трэба ісці на больш радыкальныя крокі

Я хачу звярнуць увагу на адзін момант, які мяне моцна ўразіў. Гаворка пра дадзеныя сацыялагічнага апытання, зладжанага Даследчыцкім цэнтрам ІПМ, паводле якіх каштоўнасць беларускай мовы заўважна памяншаецца ў вачах моладзі. На мой погляд, гэта сапраўдная нацыянальная катастрофа. Вось вынік той палітыкі фактычна па знішчэнні беларускай мовы, якую паслядоўна ажыццяўлялі ўлады на працягу апошніх дзесяцігоддзяў.

У апошні час пад уплывам розных вонкавых чыннікаў Лукашэнка як быццам праводзіць нейкую млявую, кволую беларусізацыю, але галоўны стрыжань дзяржаўнай палітыкі ў сферах адукацыі і інфармацыйнай бяспекі застаецца ранейшым: ніякіх прынцыповых змен у лепшы бок няма. А анекдатычны выпадак, калі было загадана памяняць беларускамоўныя шыльды на дарогах на расійскамоўныя, толькі лішні раз падкрэсліў рэальны стан спраў.

Вядома ж, моладзь у нас розная. Ёсць тыя, хто шчыра цікавіцца роднай мовай ды культурай, наведвае спецыяльныя курсы, ладзіць і ўдзельнічае ў разнастайных культурных імпрэзах. Але гэта меншасць. А большасць складаюць тыповыя прагматычныя асобы, заклапочаныя сваім прыватным жыццём, пабудовай кар'еры ды іншага. У рэшце рэшт уласнай бяспекай, бо за актыўнае адстойванне беларускай мовы ці іншыя нацыянальныя сімвалы ў пэўных абставінах можна і па загрыўку атрымаць.

Я згодны са спадаром Класкоўскім, які ў сваёй калонцы пад назвай «Каб па-беларуску прамаўляў не толькі зубр» («Народная Воля» за 2 ліпеня) напісаў, што тут вялікае значэнне мае прыклад вышэйшага чынавенства. Бо, сапраўды, на пачатку 1090-х гадоў беларускую мову досыць актыўна ўжывала амаль уся тагачасная наменклатура. Гэта было прэстыжна. І грамадства падхапіла гэты трэнд. А потым сітуацыя пачала рэзка мяняцца, і тое ж грамадства паслухмяна прыняла новыя правілы гульні.

На жаль, гэта агульная праблема постсавецкай прасторы, да і ўсіх недэмакратычных краін свету – істотная залежнасць паводзін грамадства ад вышэйшай улады. Ініцыятыва знізу – гэта добра, і яна ў Беларусі ёсць. Але яе недастаткова. Тут патрэбна дзяржаўная воля, а дакладней, у нашых сённяшніх рэаліях – воля аднаго чалавека. Аднак пакуль яе хапае толькі на тое, каб раз на год зрабіць кароткую прамову па-беларуску, або вось на такія мерапрыемствы кшталту Еўрапейскіх гульняў, дзе па-беларуску прамаўляе віртуальны Зубр. А гэтым, давайце прама скажам, нашу дзяржаву ад нахабнага ўсходняга суседа не ўратуеш. Трэба ісці на больш радыкальныя крокі. Толькі вось часу на тое, каб усвядоміць гэты факт, у айчынных улад застаецца ўсё меней.

**Дзмітрый КУРАТНІК, сталы чытач «Народнай Волі».**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 ЖНІЎНЯ 2019 г.

ПРОТЕСТ

# Растущее недовольство в Москве становится вызовом для Кремля

Десятки тысяч человек вышли в минувшую субботу на демонстрацию в центре Москвы, требуя справедливых выборов в Мосгордуму, свободу политическим заключенным и отставки президента Путина. Это была крупнейшая акция протеста за последние годы -- посреди сезона отпусков, когда многие россияне предпочитают проводить свободное время на дачах. Российское гражданское общество дает Кремлю отпор.

В первую очередь речь идет о сравнительно малозначимых выборах в городской парламент. Но в действительности налицо серьезное недовольство всей верхушкой государственной власти. Это подтверждают и результаты соцопросов, согласно которым доверие россиян к главе государства упало до исторического минимума. Причин тому много: экономика переживает застой, цены растут, коррупция достигла пугающих размеров, миллионы граждан раздражены пенсионной реформой. Все больше россиян испытывают недовольство, однако правительство отказывается допустить политическую альтернативу даже на местном уровне.

## Бесстрашие вселяет в Кремль неуверенность

Все это побуждает десятки тысяч человек выходить на улицы. Эти люди бесстрашны, и это пугает власть. Она реагирует беспомощно. Вновь и вновь президент и глава его правительства обещают улучшение, больше денег, повышение зарплат. Но в реальности уровень жизни россиян падает на протяжении последних пяти лет. Все знают об этом, замечают это по собственным кошелькам.

Но в итоге речь идет о большем, нежели только материальные интересы. Многие рядовые россияне чувствуют себя обманутыми, считают, что власти больше не понимают их, не замечают и тем более не являются их представителями. Это стало очевидным и на этом митинге. Он прошел на окруженном офисными зданиями и сотрудниками силовых структур участке проспекта Сахарова, вдали от правительственных зданий и от пульсирующей жизни столичного центра. Поэтому часть демонстрантов по окончании официальной акции протеста направилась в сторону президентской администрации в центр города. Там их остановили сотни сотрудников правоохранительных органов, многих задержали.

## Вызов для Кремля

Среди демонстрантов было не только много либерально мыслящей молодежи, которая желает больше свободы и демократии по западному образцу, были и пожилые москвичи, державшие флаги с коммунистической символикой. Они тоскуют по советским временам, когда – по их ощущениям – государство заботилось о нуждах населения. Старые коммунисты и молодые демократы – и тех, и других объединяет убежденность в том, что правительство уже не воспринимает их всерьез.

Чем дольше президент Путин остается у власти, тем больше становится дистанция между властью и народом. Кремль будет все чаще привлекать полицию, все сильнее контролировать СМИ, все жестче преследовать инакомыслящих, чтобы удержать власть. Печальные перспективы.

**Миодраг ШОРИЧ, обозреватель DW.**




ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Предъявили обвинение только по одному делу

После ареста экс-президента Кыргызстана Алмазбека Атамбаева следственные органы задержали еще несколько десятков его сторонников. Обвинение бывшему главе государства предъявлено только по делу о незаконном освобождении Азиза Батукаева.

В 2006 году криминальный авторитет Азиз Батукаев был приговорен к 16 годам и восьми месяцам лишения свободы за организацию массовых беспорядков в одной из колоний в пригороде Бишкека. В 2013 году Батукаев был освобожден из тюрьмы по заключению врачебной комиссии, диагностировавшей у него рак крови последней стадии. Он уехал из Киргизии, а впоследствии выяснилось, что он здоров, а к его освобождению были причастны высокопоставленные чиновники.

У СОСЕДЕЙ

## Допрос длился более трех часов

Вчера в Госбюро расследований Украины был допрошен экс-президент страны Петр Порошенко в качестве свидетеля по делу о возможном уклонении от уплаты налогов при покупке-продаже телеканала «Прямой».

В Генпрокуратуре запланированы **допросы в качестве подозреваемых бывших председателя Нацбанка Валерии Гонтаревой**, замглавы АП Алексея Филатова и министра экологии Николая Злочевского по делу против Сергея Курченко.

СХІЛІМ ГАЛОВЫ...

# Ушанаванне памяці ахвяр сталінскага тэрору дыпламатамі Пасольства Польшчы ў Беларусі і прадстаўнікамі польскай дыяспары




Адбылося гэта днямі ў мемарыяльных Курапатах, што пад Мінскам. Першы намеснік амбасадара Польшчы ў Беларусі Марцін Вайцяхоўскі ўсклаў да польскага крыжа вялізны букет белых і чырвоных кветак. Удзел у цырымоніі ўзяла Анжаліка Борыс, якая ўзначальвае тую частку беларускіх палякаў, якія не ўваходзяць у афіцыйны Саюз. Прысутнічалі пры гэтым у Курапатах, акрамя дыпламатаў, іншыя прадстаўнікі польскай дыяспары.

Падчас невялічкіх прамоў было падкрэслена, што «ў месцах пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій, у тым ліку ў Курапатах, знаходзіцца вялікая колькасць палякаў».

15 жніўня – Дзень Войска Польскага. У сувязі з гэтым Варшава заўжды праводзіць розныя мерапрыемствы па ўшанаванні памяці ахвяр сталінскага тэрору.




ВПЕЧАТЛЕНИЯ

# Американские каникулы

*В июле 2019 года я побывал в Соединенных штатах Америки по программе community connections при содействии офиса USAID/Belarus. Хотел бы рассказать читателям «Народной Воли» об увиденном.*

## Попасть может любой

Основная тема программы – «Городской активизм и инициатива». Хотелось бы отметить, что попасть в США по программам community connections может абсолютно любой человек, независимо от того, где он работает, какого пола и возраста. Потому что программы предназначены для сотрудников общественных объединений, представителей местных администраций, бизнесменов, юристов, специалистов учреждений образования и других организаций из стран бывшего Советского Союза. Темы трехнедельных стажировок самые различные: от развития предпринимательства до предотвращения торговли людьми и сотрудничества некоммерческих организаций и органов местной власти в решении проблем местных сообществ. Участники программы проживают в американских семьях и знакомятся с работой американских коллег в своей отрасли.

Основным городом, куда из Беларуси направилась группа из 10 человек, был город Рочестер. Принимающей организацией являлась Rochester GLOBAL Connection. В Беларуси, наверное, мало кто слышал об этом городе в штате Нью-Йорк, но все помнят такие названия, как «Кодак» и «Ксерокс». Так вот, основное производство и основные офисы этих некогда глобальных компаний находились именно в городе Рочестер. Город также знаменит тем, что расположен рядом с озером Онтарио, одним из великих озер Америки.

Одна из основных проблем, которую сейчас пытаются решить большинство администраций городов США, и Рочестер не исключение, это как вернуть в город людей. Все дело в том, что в США давно прошел промышленный бум, многие предприятия в городах либо закрылись, либо остались их небольшие филиалы, и жители уехали. Сегодня большинство американцев среднего класса живут за городом в своем доме с зеленой лужайкой. Процесс возвращения идет сложно, вкладываются огромные ресурсы



страны. Американцы открыто и откровенно об этом говорили с белорусами.

Но немножко отвлекусь.

Прибытие в США совпало с Днем независимости США, и члены нашей белорусской делегации попали в американские семьи именно в этот день. Знате, как рядовые американцы его отмечают? Собираются родственники, приходят знакомые, приезжают родственники из других городов, играют в крокет, пьют пиво отличного качества и беседуют. Я совершенно легко влился в эту компанию. Так непринужденно началось мое знакомство с Соединенными Штатами и искренними, открытыми в общении американцами.

## Исходя из пожеланий и мнений людей, строить стратегию развития района и города в целом

Программа, которая была запланирована в поездке, была очень насыщенной. Она подразумевала и посещение администрации города, и посещение некоммерческих организаций, занимающихся общественным активизмом, и встреча с активистами, волонтерскими движениями. Была предусмотрена и культурная программа и, конечно же. свободное время.

Наверное, самым запоминающимся моментом поездки стало посещение администрации (муниципалитета) города Рочестер. Здание администрации является одним из самых старых зданий в городе, ему около 150 лет, и оно практически не изменилось, лишь с одной стороны к нему было пристроено современное крыло, на крыше которого была оборудована зеленая терраса. Впечатлило то, что на одной из стен внутри здания висели портреты бывших и фотографии нынешних руководителей города. Почти все двери в муниципалитете стеклянные, и. как правило, открытые. Сотрудники приветливые и улыбающиеся!!! Нашей делегации разрешили зайти в Зал заседаний. Что меня приятно поразило: в зале установлен свободный микрофон и любой гражданин во время заседания Совета может в течение трех минут высказываться на любую тему, которая его волнует! Если вы представляете организацию, фирму, сообщество, то задержаться у свободного микрофона вы можете дольше. По заверению администрации, выслушивают всех, и очень часто общественное мнение меняет коренным образом ситуации

Следующий интересный момент – это посещение здания муниципалитета в городе Бостон, а именно отдела планирования. Что удивило и понравилось – то, что в отделе есть специальная группа специалистов, которые работают с населением в разных районах города. Основная задача данных специалистов состоит в том, чтобы максимально коммуницировать с населением по месту жительства, спрашивать, записывать, анализировать, что сказали граждане, что им нравится или не нравится, поддерживают они те или иные проекты, каковы их желания по изменениям окружающей среды в районе их проживания. И, уже исходя из пожеланий и мнений людей, строить стратегию развития района и города в целом!

## Города для людей!

Каждый день в США в разных городах по множеству раз от знакомых и незнакомых людей мы слышали фразы «доброе утро», «добрый день», «как ваши дела?». Нам все улыбались и, честно говоря, это колоссально улучшало настроение! В США очень популярно устраивать праздники и фестивали от простых сельскохозяйственных ярмарок до огромных джазовых фестивалей, собирающих сотни тысяч людей со всего мира. А какие там добродушные и открытые для общения полицейские и пожарные, готовы оказать помощь на ровном месте!

В американских городах много зелени, птиц и животных! Всегда есть большие, чистые, ухоженные парки с обязательными фонтанами и водоемами. Белки, бурундуки, еноты, опоссумы, даже олени и лани – нормальное явление в американском городе! Знаете, что я видел в парках – специальные бесплатные пакетики для уборки экскрементов домашних животных!

Большое внимание в американских городах уделяется такому модному сейчас направлению, как велодвижение. Но какая там проделана работа! Созданы велопарковки самых различных видов, велодорожки, которые могут быть расположены посередине проезжей части. Работают велопрокаты.

## СССР в США

Отдельно хочу остановиться на системе образования в США. Она, конечно, существенно отличается от системы образования в Беларуси. Но то, что удалось увидеть и узнать от жителей США, мне напомнило времена Советского Союза.

Да, конечно, там за все нужно платить. Но если вы работающий человек, то вы можете позволить себе воспитывать ребенка (детей) именно по той схеме, которая была некогда в СССР. Это непосредственно занятия в самой школе, музыкальное образование, занятия в различных секциях спортивных школ. Это экскурсии, летние секции по изучению природы и еще много различных мероприятий, которые формируют коллективное сознание, несмотря на то, что индивидуальные ценности приоритетны. В США самая главная ценность – это ты и твоя семья!

Мы практически каждые выходные посещали спортивные детские мероприятия, которые проходили на общегородских стадионах по футболу, бейсболу стадионах, которые находятся в состоянии, близком к идеальному. Там не просто соревнуются команды, но и обязательно поболеть за своих детей приезжают родители, знакомые родителей и т.д. В соревнованиях участвуют дети самой разной комплекции – и по-спортивному подтянутые, и худенькие, и полные. Играют все на равных. И в конце, независимо от результата, всем говорят слова благодарности: «Ты молодец, хорошая работа!»

Вообще, за время поездки по программе сложилось устойчивое мнение о том, что как и личное, так и чувство коллективизма в США очень сильное и что именно оно движет самой жизнью и делает людей счастливыми и независимыми.

## Человек с иными возможностями

Последнее, о чем хотелось бы сказать и чем поделиться. В США не говорят: человек инвалид и даже не говорят, что человек с ограниченными возможностями, там говорят – человек с иными возможностями! И даже на самом высшем государственном уровне подписан закон, который предоставляет равные возможности людям с иными возможностями, наравне со всеми.

К слову, если вы думаете, что США – это далеко и что попасть туда можно только за большие деньги или по блату или еще каким-либо сложным способом, я отвечу – нет, США можно посетить и другим альтернативным способом, который предоставляет программа community connections при содействии офиса USAID.

Все зависит от нас самих, нужно только верить и вершить! И благодаря одному из общественных активистов города Рочестер – Shawn Dunwoody, мы оставили свой след в США, написав на одной из стен – Рабі нечаканае!.

**Алексей БИЯНОВ, житель г.Солигорска.**

